Цана асобнага нумару 20 грошаў.

Opłata pocztowa uiszczono ryczałtem.

# НАША ПРАЎДА

Выходзіць два разы у тыдзень.

Адрэс Рэдакц... Вільня, Віленская вул. ... 12. т. 6) Рэдакцыя адчынен... ...гадз. штодня, апрача сьвяточных д... ...дміністр. ад 9 да 3.

Падпіска на адзін месяц з дастаўкай да хаты 1 зл. 50 гр. Для заграніцы ўдвая даражэй. Перамена адрэса 30 гр.

Нявринятыя ў друк рукапісы назад не вяртаюцца. Аплата надрукаванага залежыць ад Рэдакцыі.

Цана абвестак: перад тэкстам 25 грош., сярод тэксту 20 грошы і на 4 стр. 15 гр. за радок пэтыту ў 1 шпальту.

№ 13 | Вільня, Серада 18-га траўня 1927 г. | Год I

**№ 12 „Нашае Праўды“ з 14 траўня с. г. сканфіскаваны па загаду камісара ўраду на м. Вільню за верш Улад. Ініцкага „Відзежа ў вастрозе“.**

## Паварот эмігрантаў.

З кожным годам лічба беларускіх палітычных эмігрантаў у Заходняй Эўропе таець і корчыцца. Кожны год усё больш і больш людзей, якія пакінулі сваю Бацькаўшчыну, спадзяючыся, што эўрапэйскія дэмакратыі дапамогуць ім у зьдзейсьненьні беларускага незалежніцкага ідэалу,—пакідаюць сваіх „дабрадзеяў“ і ласкавы хлеб іхні ды варочаюцца дамоў.

Мы йшчэ не забыліся аб ліквідацыі А. Цьвікевічам так-званага „Ураду БНР“ і аб пераездзе былых сяброў яго з Прагі, Бэрліну ды Коўны—ў Менск, а вось і галоўны вораг „ліквідатараў“, грам. Ластоўскі, які меў даволі смачны кусок хлеба пры літоўскім урадзе,— і той пакіраваўся туды-ж, напісаўшы адначасна адозву да ўсіх сваіх таварышоў, якія йшчэ бадзяюцца заграніцай, каб пайшлі па ягоных сьлядох...

Што-ж за прычына гоне іх усіх з „цывілізаванага Захаду“ на Усход?!

Прычыны тутака—дзьве.

З аднаго боку, прадстаўнікі беларускае незалежніцкае думкі, якія ехалі на Захад з глыбокай верай у шчырасьць і дапамогу вялікіх дзяржаваў, што так гучна абвяшчалі ў Вэрсалі прынцып самавызначэньня і свабоды ўсіх народаў,— пераканаліся на дзеле, што ніхто і пальцам крануць ня думае, каб падтрымаць іх імкненьне да здабыцьця незалежнасьці Беларусі. Праўда, ім кідалі нейкую жабрацкую дапамогу на пражыцьцё і ў Бэрліне, каб выкарыстываць у палітычнай барацьбе з Польшчай, і ў Коўні, каб вытаргаваць праз іх адрачэньне беларусаў ад Вільні — на карысьць Літвы, і ў Празе чэскай, каб задэманстраваць „славяна-фільства“ чэскае палітыкі. Але ніхто і нігдзе ня думаў аб запраўдным зрэалізаваньні беларускае незалежнасьці, якая аказалася непатрэбнай нікому з „сільных гэтага сьвету“. І вось на горкім дасьледзе нашы палітычня эмігранты пераканаліся, што ўсе спадзяваньні на чужацкую дапамогу ў будаваньні незалежнае Беларускае дзяржавы ня маюць ніякае падставы.—Да таго-ж, людзей актыўных, здольных да нейкае творчае працы, страшэнна мучыла іх прымусовая бязьдзейнасьць на чужыне—пад той час, як дома йшла вялічэзная работа, як у абедзьвюх палавінах Беларусі—на Усходзе і на Захадзе—масы ўжо збудзіліся з адвечнага сну і ўзяліся ці то за будаваньне новага жыцьця — Радавай Беларусі, ці то за здабываньне належных правоў — у Заходняй Беларусі, аддадзенай заходнімі дэмакратыямі Польскай рэспубліцы... І вось усе, у кім асталося йшчэ хоць трохі сіл і здольнасьці да працы, хто разумеў, што можа нечым быць карысным свайму народу дома,—усе пакінулі безработнае жыцьцё на ласкавым хлебе ў чужынцаў і адзін за адным вярнуліся на Бацькаўшчыну.

З другога боку, ход гістарычных выпадкаў увёў беларускую справу ў зусім новае русло, аб якім ідэолёгі дэмакратычнага ладу ў будучай Беларусі і ня думалі. Ідэю дзяржаўнага будаўніцтва Беларусі з рук бяссільнае дэмакратыі, што спадзявалася на дапамогу „роднае“, хоць і чужое па нацыянальнасьці, краёвае буржуазіі,—перанялі беларускія сяляне і работнікі, і беларуская дзяржава—хоць і з абмяжаванай самастойнасьцяй—пачала будавацца толькі там, дзе засновалася ўлада працоўных. Гэта ў сваей адозьве прызнаў і грам. Ластоўскі,—апошні з тых, што верылі ў дапамогу Літвы і Бэрліну ў будаваньні незалежнае Беларусі...

І сумнае, цяжкое ўражаньне робіць тая ўжо зусім маленечкая астача нашае палітычнае эміграцыі заграніцай, якая ўсё яшчэ прадаўжае ці то шчыра думаць, ці ўдаваць, што думае,—быццам двое ці трое сяброў былае Рады Рэспублікі запраўды „перасідзяць“ і Польшчу, і ўвесь Радавы Саюз, ды прыждуць мамэнту, калі ўрачыста — пад звон царкоўных званоў—прыедуць у Беларусь, як яе „законная ўлада“!... Мінуліся тыя часы, калі „памазанцы божыя“ — цары ды каралі — захоплівалі ўладу над народамі на падставе свайго „права“ валадаць жывымі людзьмі. Дый нашыя прэтэндэнты на ўладу ў Беларусі „памазалі“ хіба самі сябе, бо народ беларускі ані ведае аб іх нічога, ані ня мае нічога супольнага з імі вось ужо дзевяць гадоў... Дый самі яны зусім няздольны ані зразумець імкненьні народныя, ані пазнаць волю народу, за павадыроў якога абабраліся.

Ад вялікага да сьмешнага — толькі адзін крок, кажуць справядліва французы. Крок гэты апошнія нашы эмігранты, што ў Празе чэскай ўсё яшчэ лічаць сябе „законнай уладай Беларусі“,— здаецца, ужо зрабілі! І зразумець, што— паміма іх—жывы беларускі народ будуе сваё жыцьцё сам—сваімі рукамі, што будаваньне Беларусі адбываецца на ўсіх шляхох і на ўсіх фронтах, што ў кожнай беларускай вёсцы ідзе рупная культурная праца і ўзгадоўваюцца новыя пакаленьні сьвядомых барацьбітаў за сваю волю,—гэтыя людзі ўжо ня ў сілах. Яны адыйшліся далёка ад жыцьця, і жыцьцё адыйшлося ад іх.

## Паход буржуазіі проці камуністаў.

### Разгром радавых установаў у... Лёндане.

12 траўня лёнданская паліцыя, абставіўшы вялікімі атрадамі ўсе гмахі радавых установаў, якія належаць да ўрадавай targовай дэлегацыі ССРР, зрабіла запраўдны разгром усіх гэтых установаў, пускаючы ў ход цэлы рад гвалтаў ды ўзломаў. Вобыск трываў больш за 24 гадзіны. Паліцыя заявіла, што астанецца ў акупаваных памяшчэньнях у працягу некалькіх дзён. Разгром зроблены з даручэньня міністра ўнутран. спраў. Дзеля таго, што ўрадоўцы радавых установаў, лічучы вобыскі нячуваным бяспраўем, адмовіліся даць ключы ад розных скрыняў ды касаў, тыя былі разламаны ды раскрыты электрычнымі прыладамі-сьвідрамі, якіх ужываюць заўсёды зладзеі-грамілы пры начных нападах. Так, у радавай каапэратыве „Аркос“ гэткім чынам зламаны 5 сталёвых касаў. Вобыск і разгром зроблены і ў торговай дэлегацыі, якая мае „загарантаваныя“ правы нятыкальнасьці...

Што-ж выклікала гэтыя нячуваныя здарэньні, якія насьлядуюць акурат тое, што зрабіў толькі-што Чанг-Тсо-Лін у Пэкіне?

Газэты пішуць, што англійцы хапіліся раптам шукаць нейкіх важных дакумэнтаў, датычучых флёту, якія быццам прададзены ці пераданы, радавым агентам англійскімі ўрадоўцамі ды навет... пасламі! Апрача таго, англійская прэса наагул вінаваціць радавыя гандлёва-дыпляматычныя ўстановы ў тым, быццам яны займаліся больш агітацыяй, як гандлем.

14 траўня яшчэ ўсе ўстановы былі заняты паліцыяй. Раніцай з паліцэйскія грузавікі вывязьлі з гэтых установаў вялізарную масу забраных там матэрыялаў.

Некаторыя газэты пішуць, быццам гэтыя правакацыйныя вобыскі зроблены англійскім міністрам дзеля таго, каб перашкодзіць таму паразуменьню між Радамі і Англіяй, якое быццам пачало наладжывацца — пад уплывам супольнай працы ў Жэнэве...

Лёгка зразумець, якое страшэннае абурэньне ў Маскве выклікалі налёты міністэрскіх грамілаў на радавыя ўстановы ў Лёндане.

„Известия“ падчырківаюць, што гэтыя напады зьяўляюцца першым крокам да зьдзейсьненьня пагрозаў Чэмбэрлена — парваць адносіны з ССРР. Адказнасьць за гэты разрыў спадзе не на Рады, якія шчыра імкнуцца да міру, але выключна на англійскі ўрад, які яўна правакуе разрыў.

### Уражаньне ў Жэнэве.

У кругах жэнэўскай Канфэрэнцыі вестка аб вобысках у радавых установах у Лёндане зрабіла вялікае ўражаньне. Адны абураны на радавы ўрад, які — пад відам гандлю — вядзе камуністычную агітацыю; другія ізноў вераць радавай дэлегацыі, якая кажа, што гэты вобыск—манэўр англійскага ўраду, каб затрудніць вядзеньне перагавораў з Радамі...

### „Сьвяты саюз“ каляніяльных дзяржаваў.

Англійскі і галяндзкі ўрады зрабілі між сабой умову, каб у сваіх калёніях разам весьці барацьбу з камуністычнай агітацыяй, што падбурае калёніі да паўстаньняў дзеля аддзяленьня ад мэтраполіяў. Да гэтага „сьвятога саюзу“ мае далучыцца і Францыя, якая вельмі перастрашана ня толькі былымі, быццам ужо зьліквідаванымі паўстаньнямі ў Марокко ды Сірыі, але і распачатым вызваленчым рухам у францускім Інда-Кітаі.

Японія на прапазіцыю Англіі рашуча адказала адмовай, жадаючы, каб сьпярша высьветліліся наагул японска-англійскія ўзаемныя адносіны на Далёкім Усходзе. Але сама ў сябе Японія, ведама ж, вядзе пляновую барацьбу з „камунізмам“, гэта-ж значыць—з карэйскім ды кітайскім нацыянальна-незалежніцкім рухам... Тое ж самае робіць і Паўночная Амэрыка—на Філіпінскіх астравох.

### Арышты камуністаў у Японіі.

14 траўня ў сталіцы Японіі, Токіо, пачаліся паліцэйскія аблавы, у выніку якіх арыштаваны шмат камуністаў-японцаў і расейцаў. У партовых местах устаноўлены асабліва строгі кантроль над прыяжджаючымі.

## Першыя угодкі „маёвага перавароту“.

12—14 траўня, год назад, як ведама, марш. Пілсудскім зроблены быў аружны пераварот, у часы якога некалькі сот людзей забіты і ранены. Цэлы рад газэт падлічыў „гадавы балянс“ гэтага перавароту. Але, здаецца, апрача ўрадавай прэсы, не сказаў ніхто добрага аб гэтым „балянсе“. За гэткае „аб'ектыўнае“, як цьвердзіць п. Обст, падлічэньне ўсіх дабрадзействаў „перавароту“ навет быў сканфіскаваны „Дзеньнік Віленскі“.

„Роботнік“ вельмі дыпляматчына, як заўсёды—круціць: з аднаго боку трэба прызнаць, але з другога дык ня можна не сцьвярдзіць...

Мы ня маем патрэбы нічога падлічаць, бо нам, беларусам, гэты „пераварот“ ня даў нічога... З другога боку, мы—ня маем магчымасьці—дзеля цэнзурных варункаў—зрабіць „падрахунак“ таго благога, што мы за гэты год спазналі...

## „Новая эра“ п. Васілеўскага.

У паўурадавай газэце „Эпока“ былы міністар, стары пэпэсавец, цяпер старшыня слаўнай „камісіі экспэртаў крэсавых спраў“, п. Васілеўскі, зрабіў рад цікаўных „адкрыцьцяў“—аб тэй „новай эры“, якая распачалася ў „меншасьцёвай палітыцы“ новага польскага ўраду ад часу маёвага перавароту марш. Пілсудскага. Ня маючы арыгіналу газэты, падаем гэтыя „рэвэляцыі“ паводле „Белар. Дня“, які з захапленьнем абвяшчае беларусам гэту „новую эру“.

„Той час, калі справамі „крэсаў“ і нацыянальнымі меншасьцямі цікавілася толькі невялічкая частка паступовае польскае інтэлігенцыі, прайшоў. Пасьля маёвага перавароту так сама, як і ў іншых галінах жыцьця, і тут пачынаецца новая эра. Можа зьмены на лепшае і ня йдуць такім шпаркім тэмпам, як гэтага вымагаюць патрэбы дзяржавы, можа ў некаторых галінах і ня відаць яшчэ значнае паправы, аднак жа бязумоўна справа рушылася з месца“.

Вось што праўда, дык праўда: як толькі справай нац. меншасьцяў, а асабліва — справай беларускай, зацікавіліся, побач, ці ў саюзе з „невялічкай часткай паступовай інтэлігенцыі“, шырокія колы крэсавых абшарнікаў на чале з п. п. Мэйштовічам, Незабытоўскім і інш.,— дык адразу „справа рушылася з месца“ і адчынілася — „новая эра“. Праўда, некалькі сот беларускіх дзеячоў-барацьбітаў неяк трапілі ў вастрог,— але за тое заблішчэў „Беларускі Дзень“, стала ясна ды цёпла ў „Беларускай Хатцы“ і т. д. і т. д...

„Каб гэта магло стацца, патрэбен быў доўгі час, у які йшла зьмена старое вышэйшае адміністрацыі. Павінны былі прыйсьці і загаспадарыць новыя ваяводы, новыя куратары, якія пачалі (?) ламаць стары закасьцянелы адміністрацыйны апарат, шкодны для справы разьвіцьця добрых адносін нацыянальных меншасьцяў да польскае дзяржавы“.

Ах, як хараша, расчуляюча піша талентнае, чэснае пяро б. пэпэсаўскага міністра п. Васілеўскага! Праўда, сьвятая праўда, пане старшыня Васілеўскі: пасьля перавароту павінны былі прыйсьці новыя ваяводы, новыя куратары, якія б пачалі ламаць...“ і т. д. і т. д... Толькі ж, вось, неяк дагэтуль яшчэ гэтых „новых“ мы ня бачылі: ў нас асталіся ваяводы ды куратары—старыя, якія і робяць далей тое-ж, што рабілі да перавароту...

„Новыя „памаёвыя“ ваяводы спатыкаліся ўсюды з вялікімі перашкодамі. Перашкоды гэтыя і да самых апошніх часоў ня ўсюды яшчэ зломаны. Дзе-ні-дзе замеры цэнтральнага ўраду спатыкаюцца з сабатажам, калі справа ідзе аб ніжэйшую адміністрацыю (?). Але новы дух цалком запанаваў у колах вышэйшае адміністрацыі, і ў зьвязку з гэтым патроху пачынаюць зьмяняцца настроі“ (?!).

Калі-б навет было запраўды так, як піша на нявінна-белай, нечырванеючай паперы чэснае пяро пэпэсаўца п. Васілеўскага, які атрымлівае належную яго становішчу старшыні „крэсавай камісіі“ пэнсію з рук тэй самай „вышэйшай адміністрацыі“, якую так красамоўна расьпісывае ў яе ўласнай газэце, калі-б усё гэта было навет праўдай, дык і тады шмат-пакутнаму беларускаму насяленьню на „крэсах“ ня было-б лягчэй ад таго, што—дзесьці далёка ад яго—„запанаваў цалком новы дух“, калі гэты „дух“ на кожным кроку „спатыкаецца з сабатажам ніжэйшай адміністрацыі“, бліжэйшай да мясцовага насяленьня... „Дух“ — сам па сабе, а адміністрацыя неяк сама па сабе... Праўда —„патроху пачынаюць зьмяняцца настроі“. Праўда, пане б. міністар, — патроху... пачынаюць! Можа, калі і—пачнуць!

„Заспакаеньне патрэбаў крэсавага насяленьня павінна ісьці ў двух напрамках: гаспадарчым і асьветным. Жыхары ўсходніх зямель павінны ведаць, што дзяржава дбае аб іх дабрабыт і ня хоча да іх аднасіцца, як мачыха“... „У гэтым напрамку пайшлі рэформы, як—прысьпяшэньне выкананьня зямельнай рэформы, запэўненьне даступнага крэдыту, падтрымліваньне каапэрацыі, помач у адбудовае і засевах і г. д.“.

Аб тым, як „пайшло“ „прысьпяшэньне выкананьня зямельнай рэформы“, мы даведаліся штосьці ў пачатку году ад самага мін. Станевіча, які заявіў, што дзеля выкананьня гэтай рэформы патрэбна будзе выдаць аж... 88 „выканаўчых распараджэньняў“, а дагэтуль—за год ад маёвага перавароту — выдана з гэтых 88 штосьці толькі адно... Аб іншых рэформах чытачы добра ведаюць з беларускіх газэтаў, а яшчэ лепш— з уласнае практыкі...

Далей „Белар. Дзень“ пераказуе сваімі ўжо славамі тое, што „шырока абгаварывае“ п. Васілеўскі ў адносінах да справы асьветных рэформаў новага ўраду на „крэсах“,— аб цыркуляры мін. Бартля, які вымагае ад школьных інспэктароў „шанаваньня мовы і асаблівасьцяў іншых народаў“ і т. д. „Новы дух“, аднак, пануе толькі ў гэтым цыркуляры, але на мясцох ідзе „сабатаж“. Аб правах гэтага „шанаваньня мовы“ дзяржаўнымі ўрадоўцамі толькі-што пісаў сам „Белар. Дзень“, калі амаль не „забадалі“ яго „тэхнічнага працаўніка“ п. Тулейку...

